


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Выходзіць з 1997 года.*

*№ 18 (18). Слонім. 3 кастрычніка - 9 кастрычніка 1997г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Цана 2 тыс. руб.*


## НЕ СВЕТИТ...

**Сегодня в Слониме имеется около трех тысяч уличных осветительных фонарей, из которых горят, примерно, 750.**

Да и те освещают город только до часа ночи по той причине, что коммунальная служба задолжала за электроэнергию огромную сумму.

Растут цены не только на электричество, дорожает и электрооборудование. Сейчас один светильник для уличного фонаря стоит 2,5 млн. рублей, а лампа — от 290 до 400 тысяч рублей. Причем, лампы отечественного производства приходится менять раз в месяц, а то и через день.

По словам начальника дорожно-эксплуатационного участка коммунхоза Ивана Якимца, в бюджете нет денег на закупку нового оборудования. Поэтому не исключено, что со временем Слоним может погрузиться во мрак.

**Олег ТОЧЕНЫЙ**

## НА МІНСКІМ ТРАКЦЕ АЎТОБУС БЯРУЦЬ ШТУРМАМ

**Ужо доўгі час жыхары вуліцы Мінскі тракт і навакольных завулкаў не могуць належным чынам патрапіць на працу ці на вучобу.**

Адзіны аўтобус, які ходзіць па маршруту № 10, звычайна раніцай перапоўнены. Таму прыходзіцца людзям браць яго штурмам. У выніку, рвуцца гузікі, чуецца брудная лаянка, кепска працаваць і кандуктарам... А ў зімовы час, калі людзі ідуць пешшу, дабаўляецца небяспека трапіць пад колы аўтатранспарту. Толькі за апошні год на гэтай дарозе ў выніку аварый загінулі 3 чалавека.

У аўтапарку №3 паведамілі, што падобныя праблемы, з-за недахопу і зношанасці транспарту, існуюць на ўсіх маршрутах горада. Праўда, паабяцалі, што, магчыма, будуць перагледжаны расклады руху «дзесяткі» і «васьмёркі».

У аўтапарку папрасілі жыхароў з Мінскага тракту крыху пацярпець, можа што і зменіцца.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ**

## ЗДАРЭННІ

### Бабулю абакралі ўнукі

***Жыхарка вёскі Драпава выявіла, што ў яе знікла больш мільёна рублёў.***

Міліцыя пачала шукаць злодзеяў і выйшла на двух непаўналетніх унукаў пацярпеўшай. Высветлілася, што хлопчыкі агледзелі бабулін скарб і паціху цягалі грошы на цукеркі.

### Цэліў у коршуна, трапіў у сына

***Жыхар вёскі Паўлава Н. пад час сваркі, прастрэліў сыну нагу з паляўнічай стрэльбы.***

Работнікам міліцыі стралок патлумачыў, што цэліў у коршуна, але прамазаў...

### Бедныя козы

***25 верасня ў міліцыю звярнуліся трое жыхароў з Прырэчнага завулка.***

Яны заявілі, што невядомыя сабакі пакусалі іх коз. Работнікі міліцыі цяпер думаюць, каму выставіць санкцыі за пацярпелых жывёл.

### Заяц коштам тры мільёны

***Двое слонімцаў Ю. і В. 24 верасня вырашылі адсвяткаваць дзень нараджэння.***

Гарэлкі хапала, а вось закускі бракавала. І хлопцы вырашылі здабыць яе з дапамогай стрэльбы. На матацыкле выехалі за вёску Талькаўшчына і забілі чатырох зайцоў. З гэтай здабычай іх затрымалі супрацоўнікі міліцыі.

У «паляўнічых» канфіскавалі стрэльбу і патроны. Акрамя гэтага на кожнага стралка накладзены штрафы: па 2 мільёны рублёў за незаконнае паляванне і па 4 мільёны за шкоду, што яны прычынілі паляўнічай гаспадарцы лясгаса.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Жанчыну загубіла гарэлка

***Днямі памерла 41-гадовая жыхарка вёскі Нагуевічы Ева Д., якая атруцілася гарэлкай.***

Сіротамі засталіся пяцёра дзяцей, самай малодшай дзяўчынцы 4 годзікі.

**М.А.**

## НАВІНЫ

### Пахавалі пад салют

**На мінулым тыдні ў вёсцы Хадзявічы былі перазахаваны астанкі 24 безыменных савецкіх воінаў, якія загінулі падчас апошняй вайны.**

Жалобная цырымонія праходзіла пад маршы ваеннага аркестра і салют. На гэтым 4-месячная праца ў нашым раёне спецыяльнай пошуковай роты капітана Генадзя Чыгрына завяршылася. Цяпер вайскоўцы накіраваліся ў Масты.

**А.Т.**

### Слонімскае войска паболее

**Магчыма, у хуткім часе ў Слоніме з'явіцца ўзвод унутраных войск для падтрымання правапарадку ў горадзе.**

З ініцыятывай аб яго стварэнні выступілі дэпутаты на апошняй сесіі гарсавета. Калі кіраўніцтва ўпраўлення аблвыканкама падтрымае гэту прапанову, то ўзвод будзе размешчаны на базе адной з вайсковых часцей, што дыслакуецца ў Слоніме.

**Алесь ЦІШКЕВІЧ**

## 5 КАСТРЫЧНІКА – ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

# Ланцужковая рэакцыя



*Аляксандр Александровіч*



*Алег Якімец*



*Руслан Рагозік*

Для таго, каб пасадзіць за парты ўсіх вучняў Аляксандра Станіслававіча Александровіча, настаўніка матэматыкі СШ №4, прыйшлося б пабудаваць каля дзесятка новых школ. Гэты чалавек ужо амаль 30 гадоў перадае дзецям крупелькі свайго вялікага таленту, сваю бязмежную ўлюбёнасць у царыцу навук — Матэматыку.

У 1990 годзе Алег Якімец, вучань Аляксандра Станіслававіча, выдатна закончыў школу, а праз пяць год — факультэт радыёфізікі і электронікі БДУ. «Гэта адзін з самых сур'ёзных і таленавітых маіх вучняў, — гаворыць пра яго Аляксандр Станіслававіч Александровіч. — Я вельмі рады зараз працаваць побач з ім і бачу ў ім свайго калегу-аднадумца». Дарэчы, сёлета яны працуюць у 10 класе з паглыбленым вывучэннем фізікі і матэматыкі.

А ланцужок перадачы прафесіі працягваецца. Алег Якімец працуе ў роднай школе настаўнікам фізікі трэці год. Невялікі педагагічны стаж, але ўжо даволі плённы ўклад. Алег Іванавіч умее паважаць у вучню асобу, распазнаць яго схільнасці і жаданні. Такім чынам, у 1996-1997 навучальным годзе Алег Іванавіч запаліў сваю першую зорачку — Руслана Рагозіка. Хлопец быў пераможцам абласной і рэспубліканскай алімпіяд па фізіцы, стаў прызёрам Сорасаўскай алімпіяды. Зараз Руслан вучыцца ў 10 класе ліцэя пры Белдзяржуніверсітэце.

**Ірына КРАСНОВА**

## НЕ АДНЫМ СВЯТЫМ ДУХАМ ЖЫВУЦЬ СЕМІНАРЫСТЫ

**Нядаўна распачаўся збор ахвяраванняў на патрэбы Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах.**

Сёлета на вучобу ў семінарыю было прынята на 50 чалавек больш, чым у мінулым годзе. У сувязі з гэтым значна павялічыліся і выдаткі. Асабліва востра стаіць праблема з харчаваннем семінарыстаў. Манастырская падсобная гаспадарка яшчэ не ў стане цалкам забяспечыць прадуктамі ўсіх царкоўных вучняў.

Таму, з благаслаўлення епіскапа Гурыя, па ўсёй епархіі распачаўся збор ахвяраванняў. Семінарыя чакае дапамогі ад арганізацый, калгасаў і ад прыватных асоб.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Учителя станут богаче

**Не исключено, что к профессиональному празднику учителям повысят должностные оклады и увеличат размеры надбавок.**

Тарифные ставки, оклады педагогам и руководителям отрасли предлагается повысить в зависимости от стажа работы: от 1 до 5 лет — на 10%, от 5 до 10 лет — на 20%, от 10 до 15 — на 30%, от 15 и более — на 40%. Предусматривается также снижение нагрузки учителей начальных классов с 20 до 18 часов в неделю при сохранении уровня зарплаты. Руководителям учебных учреждений ставка должностного оклада повысится на 10%.

**Наталья ФУРСОВА**

## СПОРТ

### ЧЕРНАЯ НЕДЕЛЯ «КОММУНАЛЬНИКА»

Вчерашний домашний матч "Коммунальника" с лидером чемпионата бобруйской "Белшиной" перенесен на 3 ноября. У слонимчан появилась небольшая пауза. Наши футболисты имеют возможность перевести дух, осмотреться и спланировать оставшиеся игры. А это очень кстати, так как все соседи "Коммунальника" по турнирной таблице пополнили свой багаж по очкам.В то время, как для слонимского "Коммунальника" прошедшая неделя сложилась неудачно. По результатам двух последних игр на его счету два поражения с общей разницей мячей 2-10.

Матч 21-го тура слонимчане играли в Жодино, где на правах хозяев поля их принимали минские "торпедовцы". Хозяева оказались негостеприимными и, забив шесть мячей (один из них в свои ворота), выиграли с общим счетом 5-2.

В воскресенье (28.09.) к "Коммунальнику" в гости приехал витебский "Локомотив-96". Забив пять безответных мячей на глазах у большого количества изумленных слонимских болельщиков , железнодорожники подтвердили свои намерения занять призовое место в первенстве.

Так что спектакль под названием "окончание сезона - 97 в Первой лиге" только начинается.

**Евгений ЛИШИК**

**Віншуем!**

Вучань 11 класа сярэдняй школы №10 Віталь Аніська стаў майстрам спорту па шашках.

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК



| цены (тыс. руб) на | 17.09 | 01.10 |
|---|---|---|
| ананасы | 23-25 | — |
| апельсины | 35 | 38 |
| яблоки | 4-8 | 5-8 |
| капуста | 4-5 | 5 |
| морковь | 5 | 5 |
| лук | 15 | 14 |
| чеснок | 35-40 | 30 |
| картофель | 4 | 3,5 |
| молоко | 6 | 6 |
| творог | 14 | 14-15 |
| масло | 84 | 84-88 |
| яйца | 25-26 | 27 |
| свинина | 42-95 | 48-95 |
| телятина | 35-65 | — |
| сало солёное | 75 | 75-78 |

# Пішчаць на рынку парасяты

Сёння ў параўнанні з мінулым годам цэны на парасят на Слонімскім рынку ўпалі. Па словах людзей, прычына адна — нечым іх карміць: бульба не ўрадзіла, ды і буракі слабыя. Таму і не спяшаюцца вяскоўцы павялічваць пагалоўе сваёй хатняй гаспадаркі.

У мінулую суботу, 27 верасня, напрыклад, з самай раніцы на гарадскім рынку тапталася больш за поўсотню прадаўцоў парасят. У асноўным гэта гандляры з Зэльвенскага, Пружанскага, Баранавіцкага раёнаў, а таксама з Мялькавіч, Сурынкі і некаторых іншых вёсак нашага раёна. Пакупнікоў было менш, таму быў выбар. Цэны паступова падалі: калі ў шэсць гадзін раніцы самая дарагая парачка каштавала 1 мільён 100 тысяч рублёў, то ў палове восьмай гэтых парасят можна было ўжо купіць за 800-950 тысяч. Асаблівым попытам у людзей карысталіся парсючкі, кошт аднаго вагаўся ў межах 350-500 тысяч рублёў, свінку можна было купіць яшчэ танней. У час гутаркі з гандлярамі і пакупнікамі, а гэта пераважна былі вяскоўцы, сярод іх і маладыя людзі, высветлілася, што цэны на парасят у Слоніме ў бліжэйшы час зноў могуць знізіцца.

**Міхась АКУЛКА**

**На «Газету Слонімскую» на лістапад і снежань можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні да 20 кастрычніка.**

**Кошт падпіскі: 7000 рублёў на месяц.**

Асоба *Нашы землякі*

# Амерыканскі мільянер са Слоніма

Упершыню родную Беларусь наш зямляк з Амерыкі Джон (Іван) Вішнеўскі наведаў пяць гадоў назад. Пра яго візіт у Мінск паведамляла тады рэспубліканская прэса. «Я думаў, што прыеду ў несучаснае, бруднае мястэчка. А калі ўбачыў родную Беларусь, то быў проста ўражаны. Я зразумеў, што любоў да Радзімы застанецца ў маім сэрцы да самай смерці», — гаварыў тады Іван Андрэевіч Вішнеўскі, які нарадзіўся ў вёсцы Нівы, Слонімскага раёна (цяпер такой вёскі ўжо не існуе). Але гэта быў не просты эмігрант, які ад настальгіі і тугі завітаў на Бацькаўшчыну. Наш зямляк са Слонімшчыны — кіраўнік буйной амерыканскай фірмы «NDII» па інвестыцыях і продажу нерухомасці, мільянер.



У свой час сям'я Вішнеўскіх эмігрыравала ў ЗША. Там наш зямляк і стаў бізнесменам. Яго фірма мае штогадовы абарот у 165 мільёнаў долараў. Яна займаецца таксама будаўніцтвам офісаў, жыллёвых будынкаў.

Іван Вішнеўскі яшчэ і пісьменнік. Сем яго кніг, выдадзеных у Штатах, сталі бестселерамі. Тэма — амаль «па Карнегі»: як максімальна выкарыстаць свае творчыя магчымасці. Адна з кніг была надрукавана ў Маскве на рускай мове, а ўвесь прыбытак ад продажу пайшоў на патрэбы нашай рэспублікі.

Наш зямляк-мільянер меркаваў «прывесці» у Беларусь буйны бізнес Штатаў, каб укласці мільярды долараў у беларускую эканоміку. Нават быў распрацаваны план будаўніцтва ў Мінску гасцініц, офісаў і катэджаў. Была размова і пра Слонім. Але хуткія палітычныя змены і нестабільнасць у Беларусі насцярожылі Івана Вішнеўскага. Усе планы і задумкі так і засталіся няздзейсненымі. Але верыцца, што не ўсё яшчэ страчана. Бо і ў Слоніме ёсць што будаваць і рэстаўрыраваць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Гісторыя *Пра гэта ніколі не пісалі*

# Шылавіцкая трагедыя

У верасні 1939 года, калі ў Заходнюю Беларусь прыйшла Чырвоная Армія, большасць слонімцаў сустракалі яе з радасцю і надзеяй. Людзі спадзяваліся, што калі не будзе паноў, то простаму чалавеку стане лягчэй жыць. Але, на самой справе не ўсё было так проста. Некаторыя з тых, хто атрымаў уладу, пачалі зводзіць асабістыя рахункі, помсціць за крыўды. У верасні 1939 года савецкія актывісты Янка Тачоны, Іван і Кандрат Панасені арыштавалі ў Савічах 11 сваіх аднавяскоўцаў: Мацвея Панасеню, Васіля Шухно, Івана, Ганну і Насцю Яршоў ды і іншых. На шчасце, абыйшлося без ахвяр. Мясцовы савецкі работнік Аляксандр Шухно (яго і сёння ў вёсцы ўспамінаюць добрым словам) разабраўся, што арыштавалі людзей не за злачынствы, а па прычыне асабістых крыўд. Таму ён загадаў сялян вызваліць. А вось у Шылавічах здарылася трагедыя.

У той час начальнікам валаснай Чырвонай гвардыі ў Шылавічах быў 37-гадовы Фёдар К., былы палітвязень і актывіст камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Шмат крыўд і здзекаў прыйшлося сцярпець яму за польскім часам. І вось цяпер, калі ўлада перамянілася, у яго з'явілася магчымасць адпомсціць. Тады мала хто ўстрымаўся ад такой спакусы. Не быў выключэннем і Фёдар, які са сваімі падначаленымі арганізаваў у вёсцы цэлы крывавы спектакль.

І сёння жыхары Шылавіч з жахам успамінаюць той дзень. Узброеныя карабінамі актывісты-«гвардзейцы» сагналі сялян да гумна, якое стаяла на беразе Шчары. Там яны сталі сведкамі здзекаў Фёдара К. і яго людзей над шылавіцкім праваслаўным святаром Міхаілам (па іншых звестках — Андрэем) Куцам і яго жонкай. Пра тое, што яны выраблялі над старымі людзьмі на вачах аднавяскоўцаў, падумаць цяжка, не тое, што пісаць...

А ўночы айца Міхаіла, яго жонку і лесніка Самсоніка па-зверску забілі ва ўрочышчы Хвядоўшчына. Выканаўцы гэтага самасуду спадзяваліся, што зробяць сваю чорную справу без сведкаў. Аднак сведка быў. Ён увесь час, хаваючыся, ішоў за вазамі, на якіх везлі асуджаных да смерці, а пасля бачыў і саму развязку гэтай трагедыі... Кажуць, што адзін з забойцаў Іван Ш., у вайну быў расстраляны партызанамі за марадзёрства на тым жа самым месцы.

Фёдара К. абмінуў такі лёс. У яго склалася ўсё па-іншаму. Ён меў узнагароды, рэгулярныя ўшанаванні сваіх "заслугаў", персанальную пенсію. Але, магчыма, да самай смерці яго турбавалі кашмары-успаміны пра забітых землякоў. У тым ліку і пра шылаўца Антона Гурскага, якога асабіста застрэліў з пісталета ў 1939 годзе, а жонку з дзецьмі адправіў у Сібір, адкуль яны ўжо не вярнуліся.

**Сяргей ЁРШ**

### ШТО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС

**За мінулы тыдзень у Слонімскім ЗАГСе зарэгістравана шэсць дзетак, якія нядаўна нарадзіліся:**

Ігнацік Лёша
Іваноў Дзіма
Лазар Арцём
Радзевіч Аня
Дземянчук Паша
Канчукоў Андрэй

***Віншуем!***

Таямніцы *Клады земли Слонимской*

# Мужской поступок

Ремонт жилого дома по улице Шоссейной подходил к концу. Поэтому строители, сложив инструмент за час до конца работы, пошли на квартиру к бригадиру, где их ждала дармовая выпивка по случаю семейного праздника. На объекте они уговорили остаться Толика, который должен был докопать траншею под коммуникации. Настроение у землекопа соответствовало погоде. В тот весенний день накрапывал мелкий дождь. В бригаде Толик считался хорошим специалистом, мастером на все руки. Однако это не избавило его от насмешек со стороны товарищей. А причиной всему был его мягкий характер и поведение жены, которая установила дома настоящий матриархат. Она заставляла мужа готовить еду, стирать белье. В общем, переложила на него всю женскую работу. Вначале он с радостью выполнял поручения своей Ларисы, но с годами женщина становилась все более деспотичной. Все чаще от нее слышались обидные упреки. Более того, она стала критиковать мужа в присутствии посторонних, жаловалась подругам и соседям на его непутевость. Ей всегда всего было мало, а особенно - денег. Он забыл, когда отдыхал последний раз. Все отпуска работал на «халтуре». Не пил, не курил.

А денег действительно на все не хватало. Одеть, обуть, прокормить троих детей было не так-то просто. В памяти всплыл дворовый случай, который оставил в душе неприятный осадок по сей день. Старшая дочь как-то каталась во дворе на велосипеде подруги. Из окна пятиэтажного дома заорала разъяренная тетка: «Лена! Ты почему даешь велосипед кому-попало!? Мы не для этого его тебе покупали! Хочешь, чтобы сломали?!»

В очередной раз он со злостью ударил лопатой в землю. Скрежет металла по металлу не удивил его. На этом месте часто встречались ржавые завесы, консервные банки. Однако, на сей раз натолкнулся на жестяный тубус. Строитель выкинул лопатой из траншеи находку и почувствовал приличный вес. Он попробовал ее открыть. Ржавая крышка тубуса не снималась. Пришлось разрывать жесть плоскогубцами. Сверху лежала полусгнившая тряпка, а под ней - что-то завернутое в бумагу. Неожиданно сверток выпал из банки и по дну траншеи рассыпалась груда золотых монет, часов, цепочек... Он лихорадочно сгреб все вместе с грязью обратно в банку и быстрым шагом направился домой.



Строитель уже знал, что будет со всем этим делать. Хлопцы не раз называли адрес одного старичка в Слониме, который скупает золото в любое время суток. Скупщик обрадовался его приходу. Откуда-то достал бутылку коньяка и газетную вырезку с государственными ценами на золото. Клад взвесили, посчитали на калькуляторе сумму, выпили по рюмке и ударили по рукам.

Строитель понимал, что если жена узнает, то не одобрит его поступок и крупного скандала ему не избежать. Но он решил, что не будет больше таким послушным пай-мальчиком, каким жена привыкла его видеть...

Лариса, придя с работы и увидев во дворе своих детей на новеньких велосипедах, накричала на них и потребовала вернуть чужие вещи обратно. Дети же только засмеялись и покатили дальше. В квартире с ней чуть не случился припадок. Ее трезвенник Толик спал на диване, свернувшись калачиком, а на столе стояла недопитая бутылка водки. По лицу спящего мужа блуждала улыбка счастливого человека.

**P. S.** В том тубусе находились еще свернутые трубочкой польские документы на имя Сацкевича.

**Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**

ПОШТА *Здравствуй, редакция!*

# 250 часов в хирургической палате

**"В больнице никто не обращает внимания на пожилых больных".**

***Из разговора на улице.***

Я категорически с этим не согласна. Это подтверждают мои наблюдения в течение 250 часов, которые я провела у больничной постели моей больной мамы. Ей было бы 86 лет. Мы не относимся к городской элите, а значит и не могли расчитывать на особое внимание. Тем не менее медперсонал хирургического отделения делал все возможное, чтобы облегчить страдания тяжелобольного человека. В палате было трое таких больных в возрасте от 74 до 85 лет. Для хирургов и сестер не было совершенно никакой разницы, кто дети этих матерей. Может только чуточку больше внимания уделяли тем, чье состояние было хуже. Наша семья благодарна врачам Ключуку И.А. и Коншину Н. А. Но особенно хирургу Сергею Окуню. Его приход в палату был светлым лучиком для мамы. Он знал, что она большой любитель грибов и леса, одной его фразы: «Васильевна, надо есть, скоро грибы будут в лесу, силы надо»,— было достаточно, чтобы она воспрянула духом, улыбнулась. К моему сердцу подходило тепло, когда я видела как чутко, без брезгливости, прощупывала сестричка своими пальчиками вены на руках, чтобы ввести иглу для капельницы. Я ни разу не видела неудовольствия дежурных сестер, когда им приходилось по ночам помогать больным. По первому зову они бежали в палату. Разве может сравниться любая другая работа с работой нянечки Нины Ивановны Сума, часто водила маму по лесной аллее, где она любила гулять. Люди в белых халатах делают все, чтобы облегчить страдания человека, не требуя мзды. Но какие бы чуткие и добросовестные не были нянечки, они физически не в состоянии уделить много внимания каждому больному.

Некоторые читатели сейчас могут заметить, что врачи за свою работу получают зарплату. Но давайте себе признаемся — пойдет ли кто туда работать за мизерную зарплату?! Ведь мы даже не можем посидеть у постели больной матери и отца... Куда спокойнее оставить родного нам человека в больничной палате, принести два лимона и уйти. А потом оперативно привезти в клинику юриста, чтобы составить завещание, на что уходит всего 15 минут. Однако материнское сердце все прощает. Рядом с кроватью моей мамы лежала пожилая женщина и, гордясь своим сыном, рассказывала мне, какой он хороший. «Ён прадае на базары ўсё смачнае. Калі я бываю там і падыходжу да яго, то ён возьме і дасць мне шакаладку. У нядзелю купіла ў яго дзве, а за трэцюю ён у мяне не ўзяў грошай», — сказала больная женщина.

**Римма Ивановна МИСКО, г. Слоним**

**P.S.** Очень прошу, напечатайте мое письмо. Люди в белых халатах заслуживают этого.

# Наш доктор

Вот уже 21 год в любую погоду спешит на помощь больным наш доктор-терапевт, участковый врач Зинаида Павловна Слезник. В 1976 году я впервые пришла к ней, молодому специалисту, на прием. Мне кажется, ей достался самый трудный участок в Слониме: центр города, где проживают люди старческого возраста. Например, в нашем доме по ул. В. Крайнего,27, проживает 14 инвалидов I-III групп. А это значит, что эти люди требуют к себе больше внимания и понимания. У нашего доктора на лице улыбка, она всегда отзывчива и ласкова. Однажды Зинаида Павловна была на курсах повышения квалификации. Так для нас этот месяц превратился в год. Мы, пациенты доктора Слезник, желаем ей крепкого здоровья, личного счастья, всех земных благ.

**Елена Петровна МОРОЗ, ул. В. Крайнего, 27, кв. 21.**

ФУТБОЛ

# Перамаглі гвардзейцы

У аўторак, 30 верасня, завяршыўся турнір па міні-футболу на кубак касцёла Св. Андрэя сярод «ветэранаў» (тых, каму больш за 35 гадоў). Усяго ўдзельнічала 7 каманд.

За трэцяе месца змагаліся каманды райаграпрамтэхнікі і гарадскога аддзела адукацыі. У асноўны час быў зафіксаваны нічэйны лік — 1:1, а па пенальці перамаглі футбалісты райаграпрамтэхнікі.

У вельмі ўпартай барацьбе праходзіў фінальны паядынак паміж камандамі «Альбярцін» і Слонімскай вайсковай брыгады. Падтрымаць апошніх прыехаў ваенны аркестр, рэпертуар, якога ў гэты вечар не вызначаўся разнастайнасцю. Тым не менш музычная падтрымка натхніла вайскоўцаў.

Хоць гульня праходзіла пад дыктоўку спартсменаў «Альбярціна», якія бясконца атакавалі, але пераможцу вызначыла футбольная латарэя — пенальці. Фартуна ўсміхнулася вайскоўцам. Яны вырвалі перамогу і заваявалі галоўны прыз — кубак, а таксама і грашовыя прызы ад аддзела па фізічнай культуры гарвыканкама.

Каштоўнымі прызамі былі адзначаны лепшыя футбалісты турніра (спонсар — Мікалай Лажэчнікаў). Лепшым іграком і бамбардзірам былі прызнаны Валянцін Гароднікаў і Уладзімір Герман («Альбярцін»), а варатаром — Аляксей Дрокін (Слонімская брыгада). Самы першы і прыгожы гол забіў Уладзімір Сінкоўскі (гарадскі аддзел адукацыі). А старэйшы ігрок — 61-гадовы Міхаіл Кобус (каманда АРЗ) — атрымаў спецпрыз.

**Андрэй ТУРУК**

НАШ КАЛЯНДАР

**5 КАСТРЫЧНІКА** 1939 года ў баю з нямецкімі войскамі пад Воляй Гулоўскай (Валынь) загінуў маёр Міхаіл Бартуль, камандзір асобнага 79-га батальёна Слонімскага польскага пяхотнага палка.

**6 КАСТРЫЧНІКА** 1943 года быў створаны Слонімскі падпольны міжрайцэнтр камсамола, які пачаў дзейнічаць на тэрыторыі Слонімскага, Казлоўшчынскага і Быценскага раёнаў.

**7 КАСТРЫЧНІКА** 1916 года нарадзіўся слонімскі паэт Алесь Сучок (Пётр Дабрыян). Памёр у 1993 годзе, пахаваны ў Азярніцы.

**8 КАСТРЫЧНІКА** 1939 года ў Слонім прыехаў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Міхась Лынькоў. У рэдакцыі слонімскай газеты «Вольная праца» ён сустрэўся з мясцовымі літаратарамі.

**9 КАСТРЫЧНІКА** 1949 года ў слонімскім кінатэатры ўрачыста адзначыўся Дзень настаўніка. На сход сабралася каля 300 дырэктароў школ і настаўнікаў раёна. З дакладам выступіў сакратар райкама партыі т. Букаты.

# Бяспечны секс,

## альбо аб тым, дзе ў Слоніме купіць прэзерватывы

У мінулую пятніцу, 26 верасня, карэспандэнт «ГС» абышоў і перазваніў амаль усе аптэкі горада з мэтай купіць прэзерватыў. У аптэках №№ 61, 54, 108, 129 гэтыя сродкі засцярогі ўвогуле адсутнічалі. Работнікі аптэк запэўнілі, што ў пачатку кастрычніка прэзерватывы ўсё ж паступяць у продаж. Напрыклад, аптэка №54, што ў Альбярціне, атрымае іх аж 15 штук, аптэка №108 , што на вуліцы Ф.Скарыны, заказала 50 штук і г.д.

Попыт на прэзерватывы ў апошні час вырас. Па словах фармацэўтаў, іх запасаў звычайна хапае толькі на 2-3 дні. Толькі ў аптэцы № 9, што на Энцы, прэзерватывы можна купіць заўсёды. Праўда, цэны вельмі кусаюцца. Былі ў аптэцы французскія па 10 тысяч рублёў за адзін, іх імгненна раскупілі. Цяпер засталіся «сямейныя» (1 упакоўка - 12 штук, коштам 78 тысяч рублёў). Але не кожны чалавек аддасць адразу 78 тысяч рублёў за прэзерватывы... Больш танныя засцерагальныя сродкі можна купіць на рынку. Тут ёсць і французскія, і італьянскія, і нямецкія, і амерыканскія, коштам ад 6 да 30 тысяч рублёў за адзін. Але ўсе яны не маюць гарантыі на выкарыстанне.

Дарэчы, да ведама чытачоў, самыя кароткія прэзерватывы выпускаюцца ў азіяцкіх краінах — ад 10 да 14 см, у Вялікабрытаніі стандарт роўны 16 см, у краінах Скандынавіі — 17 см, у Францыі — 18 см. У краінах СНД гэтыя гумовыя вырабы робяць памерам ад 10 да 24 см (!), хаця еўрапейскі стандарт роўны 17 см. Вось чаму перад іх выкарыстаннем будзьце ўпэўнены ў тым, што ў вас усё адпавядае стандарту.

Па рэкамендацыі спецыялістаў, прэзерватывы нельга захоўваць у бардачку машыны, у кішэнях і г.д., паколькі латэкс, з якога яны вырабляюцца, хутка псуецца ад высокай тэмпературы. Як гаворыцца, тут могуць пайсці і дзеці...

Больш таго, ёсць небяспека захварэць. Цяпер у Слонімскім венералагічным дыспансеры на лячэнні знаходзяцца дзевяць чалавек: два хворыя на ганарэю, сем — на сіфіліс.

**Міхась АКУЛКА**



ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

ВІНШУЮ

*С Днем учителя поздравляют:*

**Людмилу Петрашкевич** муж и сын Евгений.

Бацькі вучняў 7 «Б» класа СШ №3 усіх педагогаў школы.

Всех сотрудников детсада-ясли №10 председатель профкома.

**Юзэфу Антоновну Тиханович** семья Петрашкевичей.

**Оксану Александровну и Геннадия Ивановича Хотенко** семья Петрашкевичей.

**Глебко Ж., Покало Г., Петрашко Т.,Борисевич В., Чигрину И., Гришук Р., Томчик Н.** соседи дома 107/1(3 подъезд) по ул. Брестская.

Свайго любімага класнага кіраўніка **Селівончык Зою Аляксандраўну** і ўсіх настаўнікаў школы вучні 7 «А» класа СШ №8.

**Ерш Оксану Петровну** с Днем учителя поздравляет ее любимая учиница Таня.

Дорогую и любимую **Ярмолик Аллу Алексеевну** с днем рождения поздравляют родители и дочь Инна.

Дорогого сына **Руднева Диму** с днем рождения поздравляют родители.

**Шейнюка Николая** с днем рождения поздравляют жена Таня и дети Дима и Алена.

**Алькову Зухру** с 17-летием поздравляют подруги Женя и Наташа.

**Случака Олега** с днем рождения поздравляют родители и брат Юра.

**Храцевича Евгения** с 15-летием поздравляют родители и брат Игорь.

**Малец Александра Владимировича** с днем рождения поздравляют сын, невестка и внук Паша.

**Сазонкіну Галіну Віктараўну** з юбілеем віншуюць сябры.

**Сазонкіну Галіну Віктараўну** з юбілеем віншуе сям'я Міско.

**Миско Ольгу** с юбилеем поздравляет семья Лепко.

**Волечку Міско** з юбілеем віншуюць свёкар і свякроў.

**Сидорик Надежду Константиновну** с 55-летием поздравляет коллектив склада КПФ.

**Скарина Александра** с днем рождения поздравляет мама.

**Наконечную Светлану** поздравляют с днем рождения семьи Ализаров и Панасиков.

**Ковальчук Аллу Александровну** с днем рождения поздравляют муж и дети.

**Гончарук Ольгу** с днем рождения поздравляют муж и дети.

**Гончарук Лену** с 18-летием поздравляют родители и сестра Наташа.

**Живулько Наташу** с днем рождения поздравляют Крупники.

Крестную **Гундарь Татьяну Викторовну** с днем рождения поздравляет крестница Наташа.

**Мамай Елену** с днем рождения поздравляют муж, дочь Ирина и сын Дима.

**Бруцкую Людмилу** с 19-летием поздравляют родители.

**Однолеткова Олега Викторовича** с днем рождения сына поздравляют племянницы Вероника и Света.

**Петлицкого Павла Ивановича** с 50-летием поздравляют дочь, зять и внучка Катя.

**Григорьева Сергея** с днем рождения поздравляет Слава.

**Герасимчик Брониславу Петровну** с днем рождения поздравляют сын, невестка и внучка.

**Семененко Тамару Григорьевну** с 50-летием поздравляют муж, дети и внуки.

**Петюшика Егора** с 19-летием поздравляет мама.

**Валентину Кулешевич** с днем рождения поздравляет Саша и друзья.

Массажистку ТМО **Кулешевич Валентину Николаевну** с днем рождения поздравляют пациенты.

**Гладкую Татьяну Григорьевну** со вступлением в семейную жизнь поздравляют выпускники 1995 г. 9 «Б» класса.

**Болбатову Ольгу Геннадьевну** с днем рождения поздравляет Кацалап Таня.

**Засорина Анатолия** с днем рождения поздравляют семья и бабушка Надя.

**Ефимика Александра** с днем рождения поздравляют брат Сергей и его семья.

**Галенко Виктора** с днем рождения поздравляет семья Ефимик.

**Инну Салевич** с днем рождения поздравляет семья Масюков.

Крестного **Виктора Воскресенского** с днем рождения поздравляет крестник Денис.

**Трифонову Ольгу** с днем рождения поздравляют Федорович Ольга и брат Дмитрий.

**Шабан Андрея** с днем рождения поздравляют тетя Света, дядя Юра, сестра Оля и брат Денис.

**Сергея Вячеслава Казимировича** с днем рождения поздравляют жена, дети и внуки.

Семью **Базарских** с рождением сына поздравляют друзья.

**Петлицкую Ольгу Анатольевну** с днем рождения поздравляют родители и сестра.

**Александра** и **Наталью** с 3-летием совместной жизни поздравляет свекровь Субоч Валентина Ивановна.

**Шевчика Юрия Здиславовича** поздравляют друзья.

ПРАДАЮ

—продам корову, 4 года. Д. Драпово, Быцко Н. В.

—охраняемый гараж по ул. Коссовский тракт. Тел. 4-16-88.

—гараж по ул. Комсомольская. Тел. 4-15-23.

—спальню «Медуница», секцию «Свирь». Тел. 2-23-12.

—спальню «Медуница», секцию «Мираж», паркет дубовый. Тел. 2-92-03.

—мотоцикл «Ява» на запчасти, задние крылья к а/м ВАЗ-2101. Тел. 2-78-05.

—ПО и игры к ПК «Байт». Тел. 5-28-77.

—электрофон «Ария», прогулочную коляску. Ул. Пушкина, 99 (с 18.00 до 20.00).

—1-комн. кв-ру на «Энке» с мебелью. Тел. 4-15-23.

—а/м «Форд-Сиера», 1985 г.в. Тел. 2-00-76.

—видеоплейер «Самсунг». Тел. 3-28-58.

—электросварочный аппарат, двигатель УД. Тел. 3-24-51.

—фотоаппарат «Polaroid», резина нов., бензобак к ВАЗ, стекло боковое к ВАЗ, диски колесные. Тел. 3-15-96.

—дом в Бытене. Тел. (017) 226-21-03, 33-6-38 (в Бытене).

—секцию «Поречье». Тел. 2-41-88 (после 19.00).

—видеоплейер «Орион»+25 кассет с записью. Тел. 5-14-90.

—дом в 12 км от Слонима. Ул. Котовского, 23.

—трубы стальные для ограды. Тел. 5-10-30.

—таль ручная, передвижная, червячная. Тел. 3-22-35.

—а/м ГАЗ-5201, уч-ок 10 соток. Тел. 4-21-67 (Сергей).

—детскую коляску, детское питание «Алеся», «Малыш». Тел. 5-23-90.

—а/м «Москвич-412», 1980 г.в. Тел. 3-22-44.

—мотоцикл МТ-1036 с коляской, 1980 г.в. Тел. 96-3-16, 96-5-39, 96-5-21.

—ковер, электропривод к швейной машине, приват. дачный уч-ок. Тел. 5-22-17.

—газовую двухкамфорочную плиту. Тел. 2-20-71.

—2-комн. кв-ру на «Энке». Тел. 4-13-53.

—гараж с подвалом по Минскому тракту. Тел. 2-47-12.

—бензопилу «Тайга». Тел. 3-27-31.

—а/м «Москвич-2140». Ул. Багратиона, 33/2.

—а/м «Москвич-2140». Тел. 2-68-00 (после 17.00).

—коттедж в Рыщицах. Тел. 2-35-58.

—бытовой газовый балон. Тел. 4-24-08 (после 19.00).

—опрокидователь, шланги кислородные, аустеленовый аппарат. Тел. 2-55-30.

—дом по ул. Чкалова, 19.

—вагон для дачи, котел отопительный с газовой установкой, плиту газовую. Тел. 2-31-61.

—а/м "Форд-Эскорт" 86 г.в., а/м "Мерседес-307D" 82г.в. Тел. 4-22-25.

—2-комн. кв-ру на Вышках или меняю на 1-комн. Тел. 4-26-46.




Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук.
Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
Падпісана да друку 2 кастрычніка 1997. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.
Наклад 5.020 экз. Заказ № 2.292